Народная Воля http://www.nv-online.info
26 ЖНІЎНЯ 2014 г.

ПЕРСОНА

## Ольга СОТНИКОВА-РАМОС:

# «С любовью из Мексики...»

*Белорусская певица, лауреат международных конкурсов **Ольга Сотникова** не один год была солисткой Белгосфилармонии. Несколько лет назад ее судьба сделала крутой поворот. Ольга вышла замуж и вместе с супругом уехала на его родину, в далекую Мексику. Поклонники солистки, которые хорошо помнили ее богатое и красивое меццо-сопрано, вздохнули: как жаль! Но оказалось, что с классической музыкой Ольга не рассталась. Она по-прежнему поет, преподает. И... воспитывает троих детей.*

*Вчера в Белгосфилармонии состоялся творческий вечер Ольги Сотниковой, а накануне артистка нашла время, чтобы рассказать "Народной Воле" о своей жизни.*

**— Ольга, сколько лет вас не было в Минске?**

— Девять.

**— Расскажите, как вы познакомились с супругом, ведь жили в разных странах и существовали в разных профессиях…**

— Наверное, так судьба распорядилась. Мы познакомились в Польше. В варшавских парках часто проводятся летние музыкальные вечера. На одном из фестивалей в парке Шопена я исполняла оперные арии. А подруга, которая пришла на мой концерт, жила и занималась бизнесом в Варшаве. К ней как раз приехал мой будущий муж — погостить, полюбоваться Польшей. Так мы и встретились. Он сразу пришелся мне по душе. По профессии муж — компьютерщик, программист. Уже защитил докторскую диссертацию. Изучает инвестирование в компьютерные технологии.

**— Легко ли вам было адаптироваться в незнакомой стране? Иной климат, часовой пояс, пресловутый языковой барьер. Насколько свободно чувствуете себя в мексиканской культуре?**

— В Мексике доминирует классический испанский язык. Конечно, в зависимости от регион существуют диалекты. Мне помогло знание английского и итальянского. Испанский до переезда не изучала, на курсы не ходила. Приехав туда, знала только несколько фраз, могла отвечать на легкие вопросы. Певцы в консерватории изучают итальянский языки не один год. А испанский и итальянский очень схожи. Итальянская грамматика, я сказала бы, даже посложнее, чем испанская. В семье, слушая язык, запоминала слова. Конечно, под руками был словарь и несколько базовых книг, без которых выучить грамматику сложно. Сейчас по-испански разговариваю достаточно свободно. Интересно, что познакомившись, мы с мужем начинали общение на английском. И еще на французском... А когда приехали на его родину, он уже не хотел говорить со мной по-английски. Только на испанском!



**— Мне кажется, вы уже думаете по-испански. Делаете паузы перед словами. И мысленно подыскиваете русский аналог…**

— Да, в Мексике ежедневно разговариваю по-испански. По-русски мне там не с кем беседовать. Хотя у меня есть подруга, москвичка. Доктор наук, профессор, работает в университете.

**— Ваша семья проживает в самом Мехико?**

— Мы живем за городом, недалеко от столицы. В регионе, где когда-то зарождалась древняя культура ацтеков. Мехико — огромный мегаполис, в нем 18 миллионов жителей. Представьте, какая там загазованность! А в пробках можно простоять 6—7 часов!

**— Интересно, как менялось ваше восприятие этой страны?**

— Мы привыкли думать, что Мексика — страна солнца. Что там всегда замечательная погода, тепло и жарко. Но в моем регионе жары как таковой не бывает. Нас окружают горы. Поэтому присутствуют разные климатические условия. Наш городок находится недалеко от вулкана, и люди специально приезжают туда, чтобы увидеть снег. Для них снег — экзотика! В Мексике снега вообще не бывает, только град случается. Живем на высоте пять тысяч метров над уровнем моря. Замечательный воздух, ощущение простора... Чувствуешь себя благодатно.

Земля в Мексике очень плодородная. Природа щедро наделила этот край. Здесь растет невообразимое количество фруктов! Вокруг нашего дома — сад. Под окнами я посадила абрикосы. Есть и клумба с розами. Много пальмовых растений. Когда-то высадила три пихты — они были маленькие, а теперь достают до окон. Вообще, мне очень нравится заниматься садом и цветами.

**— Нью-Йорк находится на широте Ташкента. А Мексика еще ближе к экватору. Летом у вас очень жарко?**

— Там, где мы живем, температура не выше 27 градусов. Но если поедете в Гвадалахару, второй по величине город страны, то там температура поднимается до 50 градусов. Но, кстати, в Мексике в горах есть и леса, хвойные и смешанные. Очень красивые озера. Так что можно найти территории, где жара не донимает.



Дети Ольги — Павел-Антонио, Мила-Тамара и Марио-Эрнесто.

**— Насколько в Мексике высок уровень жизни?**

— Страна очень разная. Сколько в ней богатства, столько же и нищеты. Хватает и роскоши, и бедности. У состоятельных людей огромные ранчо. Но много неустроенных семей или тех, где большое количество детей. В основном это коренные жители. Эмигрантов сейчас стало намного меньше. Въезд в Мексику теперь ограничен. Не секрет: для многих эта страна раньше была перевалочным пунктом, чтобы потом попасть в США. Сейчас с этим вопросом очень строго.

**— За эти девять лет вы ни разу не были в Минске. Хоть тут живет ваша мама, которая, конечно же, мечтала увидеть внуков. А вы, наверное, мечтали, чтобы дети увидели вашу родину. Наверное, и дорога дальняя, и не очень дешевая…**

— На этот раз приехала только с дочерью, сыновья еще слишком малы для такого длительного перелета. Дорога занимает почти сутки, 20 часов. Это если учитывать ожидание стыковочного рейса. Лететь через Атлантику 12 часов.

**— Повседневная жизнь в Мексике сильно отличается от белорусских реалий?**

— В Мексике совершенно другой ритм жизни. Сначала я не могла к нему приспособиться. Мексиканцы не очень любят планировать жизнь...

**— Наверное, люди спонтанные и эмоциональные?**

— Точно! Они живут каждым днем, моментом. Не любят размеренности. И мне нужно было научиться существовать в таком ритме. Дети мои уже совсем другие. Дочке с самого утра нужно куда-то бежать, а не сидеть на месте. Да, мексиканцы любят пофилософствовать. Любят созерцать. Тем более природа располагает. Она великолепная, куда ни поедешь. Но при этом всегда присутствует темп скачки.

Образование отличается разительно. Если у нас дети идут в школу с семи лет, то у них с шести. Образовательный процесс начинается с детского сада. Мне кажется, нагрузка чрезмерная...

**— Наверное, в Мексике нет такой стройной системы подготовки профессиональных исполнителей, как у нас, — музыкальная школа, колледж, Академия музыки…**

— Там в каждом большом городе и даже в маленьких существуют свои консерватории. Если не государственные, то частные. Городок, где я живу, небольшой (по нашим меркам это поселок), но в нем есть театр! Причем существует еще со времен античности. Есть и современное здание, называемое Президенцией. Официальный офис местной власти. Там проходит много концертов.

**— Ольга, такой творческий человек, как вы, наверное, не может заниматься только семьей…**

— Я преподаю. Моя должность — основной профессор по вокалу в Академии духовной музыки в Толуке (второе название — Высшая школа духовной музыки). Толука — город-спутник, прилегает к Мехико. Академия частная. Инициаторами ее создания была династия знаменитых музыкантов — семья Урбан. Виктор Урбан — великолепный органист, он гастролирует по Европе и всему миру. Мне посчастливилось выступать вместе с ним.

В школе, где я преподаю, процесс обучения организован иначе, чем у нас. У нас в консерваторию можно поступить только после музыкального училища. В Высшую школу музыки могут прийти начинающие. Кто-то занимается, уже имея образование. Для них музыка — это, скажем так, второй вариант карьеры. Конечно, попадаются и сложные ученики, у которых нет, к примеру, координации между голосом и слухом. С ними приходится много работать. Мексиканские студенты достаточно чувствительны. Поэтому замечания надо делать осторожно. Национальная черта — гордость, стремление отстаивать себя. И себялюбие. Возможно, чрезмерное. Но природа наделила мексиканцев богатыми голосами. Я сталкивалась с удивительными тембрами! Бывает, что и учить не надо, чтобы не испортить природную постановку голоса.

**— В нашей Академии музыки на вокале доминируют девушки, а там?**

— Сейчас у меня учится 9 парней и только 4 девочки.

**— В Париже существует не одна консерватория. Например, наш известный виолончелист Иван Каризна и его сестра, скрипачка Анастасия, учатся в разных французских вузах. А в Мехико как?**

— Там одна Национальная консерватория. Но есть различные школы и академии, приравненные к ней. И в них идет точно такой же образовательный процесс, такая же программа. Только названия другие. Например, Академия изящных искусств или Национальная музыкальная школа. Что касается профессиональных исполнителей, то, говорят, в самом Мехико в составе оркестров преобладают русские и поляки *(смеется)*. Много скрипачей из славянских стран. Надеюсь, мои дети подрастут, и смогут познакомиться со многими музыкантами.

**— В Мексике вам хватает собственного вокального творчества?**

— Конечно, хотелось бы петь больше, выступать чаще. Но всегда нужно чем-то жертвовать. Я — прежде всего женщина. У меня семья, дети еще маленькие. Дочке семь лет, а мальчикам-двойняшкам — по четыре. К тому же у меня нет нянечек...

**— Если в семье много детей, там принято или нет иметь помощницу по хозяйству или няню?**

— Это в порядке вещей и явление распространенное. Но я хотела бы найти нянечку белорусскую. Или русскую... Дети у меня появились достаточно поздно. Поэтому их рождение было для меня огромной радостью. Не представляю, что буду уезжать надолго и их оставлять.

**— Наверное, мексиканцы о Беларуси толком и не слышали…**

— Не соглашусь с вами. Страну знают благодаря белорусским гимнасткам, мексиканцы восхищаются нашими чемпионками-биатлонистками и гребцами. Сами они увлекаются разными видами спорта, и потому имена наших спортсменов на слуху. А вот белорусов в Мексике пока не встретила. Мое огромное желание — создать белорусско-мексиканское культурное общество. Чтобы можно было общаться. И не забывать наш родной язык и нашу культуру...

**Ксения МИХАЙЛОВСКАЯ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Чым зараз займаецца Уладзімір Ганчарык?

*Даўно нешта ў публічнай прасторы і на старонках "Народнай Волі" не з'яўляўся былы старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2001 года Уладзімір Ганчарык. Цікавіцца ён яшчэ палітыкай альбо не? На якія сродкі жыве?*

**Валерыя ПЯТРОВІЧ, Мінск.**

— У грамадска-палітычным жыцці пакуль не ўдзельнічаю — узяў тайм-аўт, — адказаў "Народнай Волі" 75-гадовы Уладзімір Ганчарык. — Праўда, час ад часу даю кансультацыі з нагоды маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбараў, яшчэ займаюся некаторымі прафсаюзнымі справамі.

Які мой прагноз на наступныя прэзідэнцкія выбары? Калі ўсё так будзе працягвацца і далей, то самы песімістычны: новага прэзідэнта ў нас не будзе. Папершае, чаго грэх утойваць: зараз сама сітуацыя развіваецца на карысць дзеючага кіраўніка дзяржавы. А па-другое, няма рэальных дзеянняў дэмакратычнай апазіцыі, якая павінна быць скіравана на змену рэжыму, але на справе яна загразла ва ўнутраных разборках. Выбудоўваннем нармальнай стратэгіі перамогі, па сутнасці, ніхто з дэмакратаў не займаецца. На добры лад, усю даўным-даўно трэба было вызначыцца з адзіным кандыдатам і з тым, як яго абіраць. На мой погляд, цяпер ужо, мякка кажучы, пазнавата весці такія дыскусіі...

Што тычыцца грошай, то я атрымліваю звычайную працоўную пенсію, якая ледзь перавышае тры мільёны беларускіх рублёў. На гэтыя сродкі, самі разумееце, асабліва не пашыкуеш.



*Ці будзе яшчэ нагода падняць чарку за перамогу на прэзідэнцкіх выбарах у экс-старшыні ФПБ **Уладзіміра Ганчарыка,** экс-міністра абароны Беларусі **Паўла Казлоўскага** і экс-прэм'ера **Міхаіла Чыгіра**?*

Гэта, дарэчы, адно з пытанняў, на якім беларуская апазіцыя мусіць завастраць сваю ўвагу кожны дзень! У нас растуць цэны, даражэе камуналка. Сярэдняя працоўная пенсія ледзь перавышае два мільёны з хвосцікам, і амаль мільён трэба аддаваць на камуналку! Я разумею, што ў нас шмат людзей, якія гатовы трываць любыя нягоды, толькі б, як гаворыцца, не было вайны. Але тым не менш факт застаецца фактам — у бліжэйшы час многім прыйдзецца вельмі цяжка. І каму як не палітыкам займацца гэтымі пытаннямі?

Што тычыцца добрых навін, то нядаўна ажаніў унука. Праўда, прадзедам пакуль яшчэ не стаў, але, думаю, усё яшчэ наперадзе!

**Марына КОКТЫШ.**

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

## Наталья ПОДОЛЬСКАЯ:
## «Всегда стараюсь поставить себя на место мужа»



Очень важно в семье то, что я называю стол переговоров. В любых отношениях самое опасное — достигнуть точки невозврата.

Белоруска Наталья Подольская замужем за Владимиром Пресняковым уже 10 лет. Для людей шоу-бизнеса — это немалый срок. И практически в каждом интервью Наталью и Владимира спрашивают о секретах семейного счастья.

— *Однажды моя мудрая мама сказала: "Запомни, в любых отношениях самое опасное — достигнуть точки невозврата, —* отвечает **Наталья Подольская**. — *Вот копятся обиды и, постепенно заполняя собой все пространство, достигают последней, предельной, черты. С нее обратного пути уже нет".*

*В семейной жизни прежде всего нужно умудриться избежать соприкосновения с этой роковой точкой. Поэтому всегда стараюсь поставить себя на место мужа и посмотреть на проблему его глазами...*

— *Быть долгие годы вместе — это искусство, по большому счету,* — добавляет **Владимир Пресняков**. — *Это самое большое искусство в мире, которое называется любовь. Это искусство не мыслить, искусство прощать, искусство уступать, зная, что ты прав. Когда ты не прав, это искусство просить прощения и делать что угодно для того, чтобы не превращать эту жизнь в быт...*

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ЗЕМЛЯКІ

## Міністр-мільянер, які нарадзіўся ў Мінску

*Міністр і бізнесмен **Міхаіл Абызаў** можа ўзначаліць расійскае міністэрства, якое будзе адказваць за мадэрнізацыю.*



У цяперашні час у расійскім урадзе абмяркоўваецца ідэя стварэння спецыяльнага міністэрства, якому будуць перададзены паўнамоцтвы іншых органаў улады па інавацыйным развіцці краіны, паведамляе РБКdaily. Узначаліць новую структуру можа Міхаіл Абызаў, які з 2012 года ў рангу міністра адказвае за арганізацыю работы ўрадавай камісіі па каардынацыі дзейнасці "Адкрытага ўрада".

Нагадаем, што Міхаіл Абызаў нарадзіўся ў Мінску ў 1972 годзе. Яго бацька працуе электрыкам, маці — электрагазазваршчык. Міхаіл Абызаў у сваіх інтэрв'ю распавядаў, што навучыўся зарабляць грошы з юнацкіх гадоў — ён быў рознараборчым у друкарні, на піўзаводзе. Сёння Міхаіл Абызаў уваходзіць у рэйтынг мільярдэраў, які складае ўплывовы часопіс Forbes. Яго капіталы ацэньваюцца ў 1,1 мільярда долараў.

## Беларуска ўвайшла ў топ-30 самых багатых жанчын Расіі

*Саўладальніца групы кампаній "Садружнасць" **Наталля Луцэнка** заняла чацвёртае месца ў рэйтынгу самых багатых жанчын Расіі. Разам з мужам яна пачынала бізнес у Беларусі і яшчэ некалькі гадоў таму ў некаторых дакументах называлася грамадзянкай Беларусі.*



Forbes ацэньвае фінансавае становішча Наталлі Луцэнка ў 325 мільёнаў долараў. Гэта — амаль палова долі ў ГК "Садружнасць", якой яна валодае разам з мужам Аляксандрам Луцэнкам. Яшчэ адным акцыянерам з'яўляецца японская кампанія Mitsui & Co, адзначае ej.by.

"Садружнасць" — найбуйнейшы ў СНД вытворца кармоў для сельскай гаспадаркі з актывамі ў Расіі, Бразіліі, Даніі. У Беларусі холдынг мае гандлёвую кампанію, якую ўзначальвае сваяк Наталлі Луцэнка, некалькі ўчасткаў пад будаўніцтва лагістычных комплексаў і пляцоўка пад збудаванне маслаэкстракцыйнага завода ў Лідзе.

Узначальвае рэйтынг найбагацейшых жанчын Расіі жонка экс-мэра Масквы Юрыя Лужкова **Алена Батурына**. Яе фінансавае становішча ацэньваецца ў 1 мільярд долараў.



ГАСТРОЛЬ

## Андрэй Макарэвіч павіншуе салігорскіх шахцёраў

Як стала вядома, 29 жніўня вядомы музыкант у складзе гурта "Машина времени" выступіць у Салігорску перад работнікамі "Беларуськалія" з нагоды Дня шахцёра.

Апошнім часам Андрэй Макарэвіч сутыкаецца з жорсткім пераследам у Расіі за сваю прынцыповую пазіцыю па ўкраінскіх падзеях. За выступленне перад дзецьмі ўкраінскіх уцекачоў на Данбасе дэпутаты расійскай Дзярждумы прапанавалі пазбавіць музыканта дзяржузнагарод.

ФАРТУНА

## Брэстаўчанін зарабіў на гульні ў покер больш за 6 мільярдаў рублёў

*28-гадовы жыхар Брэста стаў рэкардсменам па прыбытках сярод фізічных асоб па выніках 2013 года ў сваёй вобласці.*

Ён зарабіў на гульні ў покер-онлайн за мяжой 6,1 мільярда рублёў. Малады чалавек добраахвотна падаў падатковую дэкларацыю і заплаціў падатак у суме 730 мільёнаў рублёў, паведамляе belta.by са спасылкай на падатковую інспекцыю.

Аналагічным чынам паступілі два жыхары Ганцавіч. Іх агульны выйгрыш у інтэрнэт-казіно склаў 254 мільёны, а агульная сума падаткаў — 30,5 мільёна рублёў.

МАЗАІКА

## Мінскае «Дынама» не выкарыстала шанц выйсці ў лідары

*У мінулую нядзелю ў перанесеным матчы 20-га тура футбольнага чэмпіянату краіны мінскае "Дынама" згуляла на выездзе ўнічыю са "Слуцкам" — 0:0 і не змагло дагнаць БАТЭ, які лідзіруе.*



У апошніх трох сустрэчах сталічны клуб набраў два ачкі (паражэнне ад БАТЭ, нічыя з "Тарпеда-БелАЗам" і "Слуцкам"). У выніку трохачковы адрыў ад чэмпіёна абярнуўся двухачковым адставаннем.

Становішча каманд (ва ўсіх па 21 матчы): БАТЭ (Барысаў) — 48 ачкоў, "Дынама" (Мінск) — 46, "Нафтан" (Наваполацк) — 37, "Шахцёр" (Салігорск) — 32, "Гомель" — 31, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) — 30, "Нёман" (Гродна) — 27, "Мінск" — 26, "Слуцк" — 22, "Дынама" (Брэст) — 19, "Белшына" (Бабруйск) — 15, "Днепр" (Магілёў) — 12.

Заключны тур першага этапу пройдзе 31 жніўня: "Нёман" — БАТЭ, "Нафтан" — "Дынама" (Мн), "Шахцёр" — "Дынама" (Бр), "Тарпеда-БелАЗ" — "Гомель, "Мінск" — "Белшына", "Днепр" — "Слуцк".

## Не вызначыліся...

*Справаздачна-выбарная канферэнцыя Федэрацыі хакея Беларусі зноў перанесена.*

Першапачаткова яна павінна была прайсці 11 чэрвеня, затым — 26 жніўня. Прычына першага пераносу — "у сувязі з падрыхтоўкай нарады ў кіраўніка дзяржавы па пытанні далейшага развіцця хакея з шайбай у краіне на перыяд 2015—2018 гг.". Новы перанос прэс-служба ФХРБ нічым не растлумачыла.

Нарада ў Лукашэнкі пакуль не адбылася. У той жа час разгарэўся канфлікт паміж федэрацыяй, клубамі беларускай экстралігі і мінскім "Дынама", якое выступае ў КХЛ, па пытанні пераходу ігракоў.

ФХРБ пакуль кіруе 66-гадовы Яўген Ворсін, які заявіў, што не плануе балатавацца на новы тэрмін, паведамляе БелаПАН.

## Вольга Барабаншчыкава: "Я — нацыяналістка!"

*Беларуска Вольга Барабаншчыкава ў канцы 1990-х уваходзіла ў 50 наймацнейшых тэнісістак свету. Пасля завяршэння кар'еры яна стала спявачкай і тэлевядучай.*

**— Сярод тэнісістаў папулярнай застаецца практыка жыць за мяжой пасля заканчэння кар'еры. Напэўна, і ў вас былі варыянты перабрацца ў іншую краіну?**

— Яшчэ ў бытнасць спартсменкай прапаноўвалі выступаць за Вялікабрытанію, але нават думкі не было прыняць прапанову. Я такая нацыяналістка...

**— Менавіта нацыяналістка?**

— Так! Калі на адпачынку нас усім агулам называлі расейцамі, не лянілася і звяртала ўвагу на тое, што я беларуска. Мы з рускімі ўсё ж розныя людзі. Нават у часы СССР адчувала сябе не савецкім чалавекам, а беларускім. Усё жыццё іду з гэтым пачуццём і гэтага не адняць. І думка пра тое, што я абараняю гонар не Беларусі, а нейкай іншай краіны, для мяне дзікая. Думаю, пасля такога было б сорамна вяртацца на радзіму, — цытуе Барабаншчыкаву pressball.by.

## Бронза, серабро і золата

*На чэмпіянаце Еўропы па водных відах спорту, які ў мінулыя выхадныя завяршыўся ў Берліне, беларусы заваявалі тры медалі.*

У актыве беларускіх спартсменаў бронзавы, сярэбраны і залаты медалі.

Золата нашай камандзе прынёс плывец **Яўген Цуркін**, які быў лепшым на дыстанцыі 50 метраў батэрфляем. Серабро ў сінхронных скачках у ваду заваявалі **Вадзім Каптур і Яўген Каралёў.** Бронза на рахунку **Паўла Санковіча** — ён заняў трэцяе месца ў фінальным заплыве на 100 метраў батэрфляем.

У агульным медалёвым заліку на гэтым чэмпіянаце зборная Беларусі заняла 15-е месца. На першым — каманда Вялікабрытаніі, на другім — расіяне, трэцяе — у зборнай Італіі.

ХАКЕЙ

*Уладзімір БЕРАЖКОЎ:*

# «Мэта ў каманды — як мінімум плэй-оф»



*4 верасня хакеісты мінскага "Дынама" стартуюць у чарговым чэмпіянаце Кантынентальнай хакейнай лігі. Напярэдадні генеральны менеджар сталічнага клуба Уладзімір БЕРАЖКОЎ адказаў на пытанні аматараў хакея.*

## Аб задачах каманды

— У гэтым сезоне мэта ў мінскага "Дынама" — выйсці ў плэй-оф і як мага далей прайсці. Калі гэтая задача не будзе выканана, значыцца, я дрэнна спрацаваў. І вымушаны буду сысці ў адстаўку.

## Аб празрыстасці заробкаў хакеістаў

— Я з задавальненнем расказаў бы пра заробкі, бо празрыстасць вядзе да канкурэнцыі. Можна каманду сабраць за 30 мільёнаў долараў, а можна і за дзесяць. І эфектыўнасць будзе розная. Гэта, безумоўна, трэба зрабіць. Іншая справа, што я падпісаў кантракт, у якім пазначана, што інфармацыя, якая тычыцца прафесійнай дзейнасці, не аб'яўляецца. Хоць пастараюся прывесці некаторыя лічбы. Напрыклад, у 2011 і 2012 гадах прапорцыя "легіянеры — беларусы" складала "12 да 1". Ужо ў мінулым годзе па заробках прыйшлі да "50 на 50". Калі ліга дазволіць агучыць заробкі, — мы гэта зробім. Ужо вядомыя бюджэты клубаў, спадзяюся, не за гарамі і празрыстасць індывідуальных заробкаў.



## Аб беларускай пашпартызацыі легіянераў

— Мы дайшлі да таго, што замежным хакеістам выдалі каля 150 беларускіх пашпартоў. Пачкамі завозім маладых расіян. Пяць гадоў таму два дзясяткі ігракоў прывезлі з Расіі. Тыя некалькі гадоў пагулялі і — зніклі. Што тычыцца таго, што зараз прапаноўваецца даць пашпарт амерыканцу Бэйлену... Вы бачылі, што на апошнім чэмпіянаце свету вынік зборнай Беларусі быў шмат у чым выпадковым. Наша каманда магла прайграць немцам, казахстанцам. Калі б не Грабоўскі, Калюжны, Сяргей Касціцын — выніку не было б. І гэтая сітуацыя не выправіцца ў бліжэйшыя гады. Такога чэмпіянату больш не будзе ніколі, бо ў Мінску сабраліся ўсе лепшыя! І новыя людзі ў бліжэйшы час не з'явяцца. Ёсць Лісавец і Нагачоў, яны растуць. Але ў пары з тым жа Бэйленам. Таму мне здаецца, што трэба рабіць выключэнне з правілаў. Галоўны трэнер мінскага "Дынама" Покавіч сказаў, што пашпарт амерыканцу будзе вялікім падарункам для зборнай Беларусі.

## Аб галоўным трэнеры "Дынама"

Любамір Покавіч — вельмі талковы спецыяліст. Яго адзначаюць усе ігракі. Любамір дае шанц беларусам, усім дазваляе пагуляць. Таму, думаю, усе павінны верыць, што Покавіч зможа вывесці каманду ў плэй-оф і дапамагаць яму. Калі пра сябе чытаю брыдоту, мне абсалютна не крыўдна. Трымаць удар умею. Але не магу спакойна адносіцца да таго, калі б'юць маіх калег. З'яўляюцца артыкулы, дзе Покавіча называюць ледзь не слабым звяном "Дынама". Хочуць сутыкнуць мяне з галоўным трэнерам... Вынік — гэта сукупнасць агульнакаманднага духу. Усе павінны працаваць на адну мэту!

## Аб беларускім хакеі і клубах

— Беларускі хакей — гэта балота, якое пранізана нянавісцю. Дзе ўсе адзін аднаму жадаюць няўдачы. Вакол — антаганізм і эгаізм. Яны з'яўляюцца дамінантай і ў адносінах паміж беларускімі клубамі... Не хачу цягнуць коўдру на сябе. Не бачу "Дынама" дыктатарам. Наадварот. Хачу пабудаваць сістэму такім чынам, каб усе адзін аднаго паважалі і дамаўляліся па хакеістах.

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *Учора пачаўся продаж білетаў на дамашнія матчы мінскага "Дынама" ў рэгулярным чэмпіянаце КХЛ. Пакуль можна набыць квіткі на першыя дзве дамашнія сустрэчы з "Атлантам" і ЦСКА. Акрамя таго, у продаж паступіць комплексны білет на два матчы з клубамі "Северсталь" і "Тарпеда".*

## Каляндар гульняў

*Прапануем вашай увазе расклад матчаў з удзелам мінскага "Дынама" ў першынстве Кантынентальнай хакейнай лігі сезона 2014/2015.*

**4 верасня (чацвер)**
"Йокерыт" (Фінляндыя) — "Дынама"
**6 верасня (субота)**
"Дынама" (Рыга) — "Дынама" (Мн)
**8 верасня (панядзелак)**
СКА (Санкт-Пецярбург) — "Дынама"
**12 верасня (пятніца)**
"Дынама" — "Атлант" (Маскоўская вобласць)
**14 верасня (нядзеля)**
"Дынама" — ЦСКА (Масква)
**18 верасня (чацвер)**
"Дынама" — "Северсталь" (Чарапавец)
**20 верасня (субота)**
"Дынама" — "Тарпеда" (Ніжні Ноўгарад)
**23 верасня (аўторак)**
"Тарпеда" — "Дынама"
**25 верасня (чацвер)**
"Северсталь" — "Дынама"
**27 верасня (субота)**
ЦСКА — "Дынама"
**29 верасня (панядзелак)**
"Слован" (Славакія) — "Дынама"
**3 кастрычніка (панядзелак)**
"Йокерыт" — "Дынама"
**10 кастрычніка (пятніца)**
"Дынама" — "Слован"
**14 кастрычніка (аўторак)**
"Дынама" — "Атлант"
**18 кастрычніка (субота)**
"Нафтахімік" (Ніжнекамск) — "Дынама"
**20 кастрычніка (панядзелак)**
"Лада" (Тальяці) — "Дынама"
**22 кастрычніка (серада)**
"Трактар" (Чалябінск) — "Дынама"
**24 кастрычніка (пятніца)**
"Югра" (Ханты-Мансійск) — "Дынама"
**27 кастрычніка (панядзелак)**
"Амур" (Хабараўск) — "Дынама"
**29 кастрычніка (серада)**
"Дынама" — "Адмірал" (Уладзівасток)
**1 лістапада (субота)**
"Дынама" — "Сібір" (Новасібірск)
**2 лістапада (нядзеля)**
"Дынама" — "Металург" (Новакузнецк)
**5 лістапада (серада)**
"Амур" — "Дынама"
**7 лістапада (пятніца)**
"Адмірал" — "Дынама"
**12 лістапада (серада)**
"Йокерыт" — "Дынама"
**14 лістапада (пятніца)**
"Дынама" (Рыга) — "Дынама" (Мн)
**17 лістапада (панядзелак)**
СКА — "Дынама"
**19 лістапада (серада)**
"Медвешчак" (Харватыя) — "Дынама"
**24 лістапада (панядзелак)**
"Сочы" — "Дынама"
**29 лістапада (субота)**
"Дынама" — "Медвешчак"
**3 снежня (серада)**
"Лакаматыў" (Яраслаўль) — "Дынама"
**5 снежня (пятніца)**
"Віцязь" (Маскоўская вобласць) — "Дынама"
**8 снежня (панядзелак)**
"Дынама" — "Салават Юлаеў" (Уфа)
**12 снежня (пятніца)**
"Дынама" — "Авангард" (Омск)
**14 снежня (нядзеля)**
"Дынама" — "Барыс" (Астана)
**24 снежня (серада)**
"Дынама" — СКА
**27 снежня (субота)**
"Дынама" (Мн) — "Дынама" (Рыга)
**29 снежня (панядзелак)**
"Дынама" — "Віцязь"
**3 студзеня (субота)**
"Йокерыт" — "Дынама"
**5 студзеня (панядзелак)**
"Атлант" — "Дынама"
**8 студзеня (чацвер)**
"Дынама" — "Слован"
**10 студзеня (субота)**
"Сочы" — "Дынама"
**13 студзеня (аўторак)**
"Дынама" (Мн) — "Дынама" (Масква)
**15 студзеня (чацвер)**
"Дынама" — "Лакаматыў"
**17 студзеня (субота)**
"Дынама" — "Віцязь"
**20 студзеня (аўторак)**
"Слован" — "Дынама"
**22 студзеня (чацвер)**
"Медвешчак" — "Дынама"
**28 студзеня (серада)**
"Металург" (Магнітагорск) — "Дынама"
**30 студзеня (пятніца)**
"Аўтамабіліст" (Екацярынбург) — "Дынама"
**1 лютага (нядзеля)**
"Ак Барс" (Казань) — "Дынама"
**3 лютага (аўторак)**
"Дынама" — "Медвешчак"
**7 лютага (субота)**
"Дынама" — "Югра"
**9 лютага (панядзелак)**
"Дынама" — "Трактар"
**12 лютага (чацвер)**
"Дынама" — "Атлант"
**14 лютага (субота)**
"Атлант" — "Дынама"
**18 лютага (серада)**
"Дынама" — СКА
**20 лютага (пятніца)**
"Дынама" — "Йокерыт"
**22 лютага (нядзеля)**
"Дынама" (Мн) — "Дынама" (Рыга)
**24 лютага (аўторак)**
"Дынама" (Масква) — "Дынама" (Мн)

МНЕНИЕ

## Чего можно ожидать в новом хоккейном сезоне от «Зубров»?

Хоккеисты минского "Динамо" в обновленном составе под руководством главного тренера Любомира Поковича готовятся к началу нового сезона.

Из легионеров — значительное пополнение. Так, в состав команды наверняка войдут защитники Шварни и Бэйлен, а также нападающие Щехура, Чичу, Веске и Эллисон...

Результаты товарищеских матчей (а также впервые выигранный Кубок памяти Руслана Салея) вселяют определенную уверенность в завтрашнем дне команды.

Я имею в виду не столько результаты, сколько отношение хоккеистов к игре. Важно, что есть вдохновение, а это много значит. Так бы и дальше! Будем надеяться, что "Зубры" порадуют болельщиков и хорошей игрой, и обилием заброшенных шайб, что позволит им выйти в плей-офф. Тем более мы слышим заверения руководства клуба о хорошем микроклимате в команде. Удачи!

И еще пару слов о некоторых странностях решения в нашем хоккее кадровых вопросов. Я понимаю, когда бывший главный редактор "Прессбола" Владимир Бережков становится генменеджером "Динамо". Этот человек знает хоккей не понаслышке... Но когда Федерацию хоккея собирается возглавить бывший метатель молота Девятовский?! Может быть, лучше отправить его поднимать отечественную легкую атлетику? Согласимся, было бы логичней.

А так ситуация напоминает слова из басни Крылова: *"Беда, коль пироги начнет печи сапожник, а сапоги тачать пирожник..."* Вот этого не надо!

**Юрий ЯСИНСКИЙ, заслуженный тренер Беларуси, ветеран спорта.**

ШАШКІ

## "Пінск-2013"

Конкурс быў адкрытым. Нядаўна падведзены яго канчатковыя вынікі. У катэгорыі А (сярэднія праблемы-64) лаўрэатамі сталі А.Саўчанка (Украіна), А.Кагоцька (Беларусь), Р.Валееў (Расія), А.Ныч (Украіна), П.Шклудаў і В.Грабенка (Беларусь). У катэгорыі В (вялікія праблемы-64) перамаглі П.Шклудаў і А.Перавознікаў (Беларусь), А.Саўчанка і У.Похіл (Украіна).

Пазнаёмцеся з творамі беларускіх прызёраў:

1 (А.Перавознікаў). **Белыя**: b6, c5, c7, d6, e7, f6, g5, g7, h6 (9). **Чорныя**: a3, a5, b4, d4, d8, e3, f2, f4, f8, h4, h8 (11). 75, 83 ачка. Пашукайце выйгрыш за белых. Свае рашэнні вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.

2 (П.Шклудаў). **Белыя**: a3, b6, c1, c7, d6, e5, e7, f6, g1, g7, h6 (11). **Чорныя** : a5, a7, b2, b4, b8, c3, c5, d2, d4, e3, f2, h8 (12). 77, 33 ачка: ed8, c5 (f4) a3 (c7VP1) a5 (b6VP2) ace1, f4, b4, g7 (b4) h6 (a3) c1 (b6) f2 (c5) e3 (b4) d4+. VP1(f6) b4, a5, e1, f4, g7x. VP2(f6) a3-b4, e1, f4, g7x.

3 (А.Кагоцька). **Белыя**: b6, c5, c7, d4, d6, e5, e7, f6 (8). **Чорныя**: a5, d2, e3, f2, f4, g3, g5, h2, h4 (9). 69, 33 ачка: b8, d8, f8, e1, b4 (fg1) a7 (g3-f2) g3 (f4A) bc5, h6, e3, g1+. A(f2) e1+.

4 (В.Грабенка). **Белыя**: a3, b6, c7, d6, f4, f6, g5, g7 (8). **Чорныя**: a5, a7, c3, d2, d4, d8, e3, f2, h4 (9). 68 ачкоў: h8, g7 (b6A) b4, e5 (f6B) a1 (g5) c5, f8, a3+. A(f6) e5 (b6) b4 (f6) a1 (c3) a5, f6/d8+. B(f4) c5, b2/a1, f8, a3+.

## Беларусы ў міжнародных турнірах

Першы з іх ладзіўся на іспанскім курорце Салоў па шашках-100. У ім 124 удзельнікі прадстаўлялі 15 краін. Бліскуча выступіў наш суайчыннік чатырохразовы чэмпіён свету А.Гантварг: яму ўручаны другі прыз. Паглядзіце, якую прыгожую камбінацыю ён правёў у партыі супраць літоўца А.Домчава (белыя):

**Белыя**: 28, 29, 33, 34, 35, 36, 39, 40, 42, 43, 4 4, 45 (12).

**Чорныя**: 2, 3, 6, 13, 14, 15, 18, 19, 20, 22, 24, 25 (12). 1...18-23! 2...24-30 3...14-19 A4. 28:17 3:14 5. 13:24 20:47x. A4. 13:24 5. 28:17 3:14x.

Маштабны турнір адбыўся і ў польскім горадзе Гнезна ў замку XVI стагоддзя. Стартавалі 104 стаклетачнікі з Нідэрландаў, Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Сурынама, Ізраіля, Польшчы і Беларусі. Тут выдатна выглядаў А.Булатаў і заваяваў галоўны прыз — рыцарскі меч. У дзясятку мацнейшых увайшоў яшчэ адзін наш зямляк — В. Варушыла.

## Праверце рашэнні

**"Эпізоды з чэмпіянатаў Беларусі"**: №6 (Э.Макарэвіч—Д.Федаровіч) — 1. cb4 e:c3A 2. g:c7 b:d6 3. b:d2x. A1...a:c3 2. ab4 3. cd2 4. d:b4 5. g:a5x.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ



*Юлия НЕСТЕРЕНКО:*

# «Хочу выступить на Олимпиаде-2016»

*Наша газета уже поздравила белорусскую легкоатлетку **Юлию НЕСТЕРЕНКО** с десятилетием со дня ее исторической победы в беге на 100 метров на Олимпиаде-2004. Сама спортсменка в этот знаменательный день встретилась с болельщиками и рассказала журналистам о прошлом, настоящем и будущем.*

**— Юлия, что вам не позволило развить успех после Олимпиады в Афинах?**

— Очень хотелось быстрее всем доказать, что моя победа не случайна, — цитирует спортсменку pressball.by. — Люди ждали от меня новых успехов. И был такой эмоциональный подъем, что я хотела тренироваться еще и еще, но не заметила, как загнала себя сумасшедшими нагрузками в состояние хронической усталости. Пошли травмы, а с ними — неудачи на соревнованиях. Все это сказалось на психологическом состоянии.

**— Сейчас МОК и ВАДА перепроверяют допинг-пробы прошлых лет и задним числом дисквалифицируют спортсменов. Вы не испытываете волнения по этому поводу?**

— Нет. Абсолютно.

**— Как вы оцениваете нынешнее состояние легкой атлетики в Беларуси?**

— Мне очень обидно и печально наблюдать за тем, что происходит с нашей легкой атлетикой. По-моему, хуже уже быть не может. Сейчас завоевали две золотые медали на чемпионате Европы. Но эти награды опять послужат ширмой для прикрытия глобальных проблем. Впрочем, я никак в последнее время не контактирую с федерацией, поэтому не хочу оценивать ее действия. Знаю только, что многие тренеры и спортсмены недовольны тем, что происходит.

**— А если бы вас попросили возглавить федерацию?**

— Это не мое. Я могла бы войти в тренерский штаб, чтобы помочь опытом и знаниями. И то при условии, что им руководили бы люди, которые сплотили бы команду, соблюдали спортивный принцип при отборе на соревнования, помогали спортсменам. И очень важно, чтобы главным тренером был профессионал, который при этом не совмещал должности.

**— У вас есть на примете такой человек?**

— Я с удовольствием работала бы с Ваней Тихоном. Это очень порядочный, сильный духом человек, великий спортсмен и профессионал. Но насколько знаю, он сам отказался от этой должности.

**— А что скажете по поводу бывшего метателя молота Вадима Девятовского, который выдвинут кандидатом на пост председателя Федерации хоккея?**

— Это лишний раз говорит о том, что в стране не хватает спортивных управленцев. По-моему, так не должно быть.

**— Почему в Беларуси так никто и не пришел на смену Юлии Нестеренко? Ведь была целая плеяда подающих надежды молодых бегуний.**

— Понимаете, у нас ведь никого даже не пытаются удержать. Ушел спортсмен и ладно. Вот и уходят. Спортсмены, массажисты, тренеры...

**— Вы продолжаете тренироваться?**

— Да, я сейчас в команде Госпогранкомитета. Пограничники — это те люди, которые оказали поддержку в самый сложный период моей жизни. Благодаря им я имею возможность тренироваться и заниматься любимым делом. Хочу выступить на Олимпиаде в Бразилии.

**— Когда теперь ждать возвращения Юлии Нестеренко на дорожку?**

— Хотелось бы зимой.

**— Вам никогда не предлагали уехать в другую страну?**

— После Афин поступило предложение от американского тренера, но серьезно я его не рассматривала.

**— У вас много друзей?**

— После победы на Олимпиаде нашлись даже те, кто был со мной в детском саду. Но время все расставило по своим местам. Сейчас со мной только самые верные друзья. Те, которые не бросят в трудную минуту.



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс
(017) 3286871.
Тэл.рэкламнага аддзела:
(017) 3286609,
3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 14066

Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 25.08.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26050 экз. Заказ №3294.